***

Пачуцце дні расстання пераможа,
Калі ж згарыць апошні дзень журлівы,
Шануй таго, хто без цябе не можа,
Не йдзі за тым, хто без цябе шчаслівы.

***

Мы думкамі сусвет ужо аббегалі,
Ды ўсё шукаем новых тэмаў дня,
Каб гаварылі толькі то, што ведалі,
Якая б наступіла цішыня.

***

Ісціны вечныя людзям адкрыты,
Праўда і гора да іх давялі:
Сцены бальнічныя чуюць малітвы,
Сцены царкоўныя бачаць рублі.

***

Перапрыгваю па кіламетру,
За сабой разуменне цягну,
Раз сягоння іду супраць ветру,
То няхай мне плююць у спіну.

***

Не рабі паспешнага прызнання,
Хай плыве павольна час густы,
Хто не зразумеў твайго маўчання,
Для таго і словы – гук пусты.

***

Так склалася, відаць, з часоў патопу,
Ды адкрываю ісціну ізноў:
Хто хоча мець сяброў без недахопаў,
Той цалкам застаецца без сяброў.

***

Жонка ад разрухі вые,
А мужык сядзіць паважна,
Калі рукі залатыя,
То адкуль растуць – не важна.

***

Лезуць ненармальныя
Ў сеткі сацыяльныя,
Там і доктар, там і псіх,
Інтэрнэт прымае ўсіх.

***

Трывіяльныя прыёмы
Прыпадносяць нам пахабнасць.
Лепей геній невядомы,
Чым славутая бяздарнасць.

***

Таямніцы знікалі ў свой час,
Адкрывалі, хто лепшы быў з нас.

***

Дэмакраты  пераплюнулі фашыстаў,
У мастацтве садамія і развал,
Божы слугі горш за сатаністаў,
Злодзеі калоцяць капітал.

***

Як фантазію не носіць,
Лёс не прыйдзе, не папросіць.

***

У часе скрухі, звады,
Адкрыцца не спяшы,
Найбольшы вораг – сябар,
Што ведаў боль душы.

***

Ад лёсу свайго не схавацца,
Пагэтаму – бойся баяцца.

***

Можа быць творы б вялікія
Сталі ў мазгу нараджацца,
Каб са штодзённасцю дзікаю
Мне не прыйшлося ўжывацца.

***

Павольны парадак густы
Клапоціцца спраўна пра нас,
Актыўнасць – занятак пусты,
І марна растрачаны час.

***

Цяжкае жыццё, як не круці,
Хутка ты на слова мне паверыш,
Колькі у дзяржавы не крадзі,
А свайго назад ніяк не вернеш.

***

Што ж гэта зрабілася?
Новага не просім,
Нам прыносіць час
Болей, чым выносім.

***

Ці застацца навек маладым,
Ці насмешлівым быць, ці сур’ёзным?
Так, жывём мы пад небам адным,
Гарызонт жа у кожнага розны.

***

Вечна чуецца ныццё,
Справы не да ладу,
Пражывай цяпер жыццё,
Не рабі адкладу!

***

А калі дасягнеш мэты
І пажнеш яе плады,
Промнем яснасці сагрэты,
Зразумееш, сродак – ты.

***

Цвёрдая пазіцыя
Сведчыць нам усім,
Што мазгоў кандыцыя
Мяккая зусім.

***

Колькі грошай прыбірае
Скупердзяй і асталоп,
Аднаго не ўспамінае –
Без кішэняў будзе гроб.

***

Саграшы на гэтым свеце,
Можа лепей стане жыць,
Бо, па векавой прыкмеце,
Там ужо не саграшыць.

***

Часам, бывае, мудрасці
Не дасягнуць і дна,
Ды па шляху далёкасці
Старасць прыйшла адна.

***

Рвуцца людзі з цёмнай клеткі
Да ўсяго лаяльныя,
Для свабоды толькі сеткі,
Сеткі сацыяльныя.

***

Бывае, ў Гасподніх руках
Жыццё так павернецца смела,
Што грэшнікам стане манах,
Палач зробіць Божае дзела.

***

Рэгулярна за нас выбіраюць,
Кабінетамі мысляць за нас,
Што не дзень, то мудрэй абуваюць,
Ах, які не цікавы наш час.

***

Каб вы знали, як пагана
Кампазітары жывуць,
Устаюць заўсёды рана
І гарэлку вечна п'юць.

***

З тых пор, як пад небам народы
Кідаюцца ў радасць і плач,
Кароль раздае ўзнагароды,
А казні звяршае палач.

***

Што не замярзае на марозах?
Што ратуе кропелькай адной?
Пэўна алкаголь у дробных дозах
Нам карысны ў колькасці любой.

***

Гэтаму веку імкліваму
Не даспадобы бяспечнасць,
Шчасце каротка шчасліваму,
Гора гаротнаму – вечнасць.

***

Якія цудоўныя людзі
Парой гаварылі пра нас,
Не думайце, вечна не будзем,
Жыццё выдаецца на час.

***

Нялёгкі груз – дарункі Бога,
Прыносяць зайздрасць злых вачэй,
За талент судзяць вельмі строга,
Бяздарнасці пражыць лягчэй.

***

Быццам вольныя, ды ўсё ж,
Прынялі без руху
Калектыўны злы смярдзёж
За адзінства духу.

***

Пакручасты лёс пляце
Павуціны парныя -
Што не ворагі твае,
То сябры каварныя.

***

Як часта на свет
Мы слепа глядзім,
Каханне – дуэт,
Дзе спявае адзін.

***

У сэрцы носім раны да пары,
За погляд, слова рэзкае, памылку,
Як часта пакідаюць нас сябры,
А ворагі збіраюцца ў капілку.

***

Пакуль дабрыні
І зла не пазналі,
Ўсе людзі браты,
Як Каін і Авель.

***

Не паняць, не змерыць
Скупасці прыроду,
Золата праверыць
Чалавека пробу.

***

Дзвесце пачэсных мужоў
Зноў засядаюць сур’ёзна,
Колькі саноўных галоў,
Толькі ніводнага мозга.

***

Глядзіце за сабой,
У гэтым і загадка ўся,
Не вельмі хітры той,
Хто хітрасцю праславіўся.

***

З ваеннымі не раз я сустракаўся,
Таму засвоіў ісціну адну –
Ў якую б форму ты не апранаўся,
Фуражка дэфармуе галаву.

***

Сёння, як ніколі, дурасць зборная
Лезе ў неразумны нізкі лоб,
Кожная асоба непаўторная
Ў калектыўны верыць гараскоп.

***

Дзікі натоўп нішчыць вершы,
Камні магільныя б’е,
Большая частка над лепшай
Зноў перавагу бярэ.

***

Мне салодкае віно,
А яму сухое,
Дык чаму ж, усё адно,
П’янае такое?

***

Мне сягоння ад ранку у думках адно,
І сабе не баюся прызнацца,
Каб гітара пад ліпай, дзяўчаты, віно,
І яшчэ, каб усім па шаснаццаць.

***

І куды наш век ляціць,
Захварэць ізноў прычына,
А, калі захочаш жыць,
То бяссільна медыцына.

***

Высакамерна  паглядаем,
З пагардай гутарку вядзём,
Парады  кроплямі прымаем
І вёдрамі іх раздаём.

***

Аж да роспачнай бяды
Мяне думка страшыла –
Не прабіць глухой сцяны
Інтэлекту вашага.

***

Часам, каб заняць высокі пост,
Перажыць ліхое давядзецца,
Бо усё часцей кар’ерны рост
Шляхам палавым перадаецца.

***

Учора днём з адной прахожай
Мяне дарожанька звяла,
Яна была такой прыгожай,
Што быць разумнай не магла.

***

Калі доўга не хочуць ваш талент прызнаць
І не бачаць натхнёнай работы,
Не спяшыце ў зямельку яго зарываць,
Можа быць, вакол вас ідыёты.

***

Праляцелі эпохі імгненнем адным,
Пакаленні сышлі за тым светам,
Як жа добра адчуць сябе з ранку жывым
І камусьці засведчыць аб гэтым.

***

Штодзень перажыванні і турботы,
Усё складаней выхаваным быць,
Найболей раздражняюць ідыёты,
Што меюцца на роўных гаварыць.

***

Шукаем дарагіх,
Прыгожых разглядаем
А сустракаем тых,
Каго ужо чакаем.

***

Інтэлект ляціць пралётам,
Не паклічаш наўздагон,
Калі спорыш з ідыётам,
Роўна тое ж робіць ён.

***

Баха і Моцарта знаю,
Вельмі любілі наліць,
Вось я цябе і пытаю:
Хто ты такі, каб не піць?

***

У салёнай расе
Нельга вочы памыць,
Калі быць, як усе,
Для чаго тады быць?

***

Пакінь жа душу, спадзяванне!
Сустрэча – пачатак растання.

***

Сёння ізноў невясёлы,
Зноў вінавачу сябе,
Помню разумныя словы:
Здраджваюць толькі свае.

***

Інстытуцкія дыпломы
Прадаюцца ўсё часцей,
Як казаў адзін знаёмы:
Дурні сталі багацей.

***

Ну, бывае такое, бывае,
Што ня йдзе у прафесіі дзела,
Калі таленту вам не хапае,
Пераходзьце у геніі смела.

***

Слухаю сяброўскую бяседу,
Ад душы мяне ушанавалі,
Сёння, акурат пасля абеду,
Непрызнаным геніем прызналі.

***

Зарплата крывіць сваю рожу,
Да ніткі сцёрлась паліто,
Пакрыўдзіць творцу кожны можа,
А даць капеечку – ніхто.

***

Колькі Бог павінен даць нам хлеба,
Як Яго занята галава,
Хоць мільярды нас, а ўсё ж пад небам
Зноўку чалавекі толькі два.

***

Ад вякоў, як мы сталі ў Эдэме грашыць,
Для ваганняў адна ёсць прычына:
Не жаніся на той, з якой можна пражыць,
А на той, без якой немагчыма.

***

Дзіка фюзеляж трашчыць,
Крылы адрывае,
Нема атэіст крычыць,
Бога прызывае.

***

Праўда ходзіць за далярам
У царкве і на судзе,
Абяздоленым ахвярам
Не спрыяюць анідзе.

***

Прыгадаю смутак дзён былых,
Ці то сон, ці з кнігі даўняй казка,
Мёртвых не пускаюць да жывых,
А жывых да мёртвых – калі ласка.

***

Страўнік ежу паглынае,
Калі што не так – назад,
Галава ж твая дурная
Спажывае ўсё падрад.

***

Перад тым, як стаць у позу,
Агляніцеся вакол,
Каб ніхто з крывой бярозы
Вам не ўставіў частакол.

***

Хто захоча мецць выгоду,
Знойдзе і з няпраўдай згоду.

***

Рыфмай не сагрэта
Проза –сьмерць паэта.

***

Як жа позна у гэтым жыцці
Разглядаем куды нам ісці.

***

Не чытаю ніякіх навін,
Знаю сам хто балван, хто крэтын.

***

Не хавайце талентаў сваіх,
Можа быць ацэніць нейкі псіх.

***

Трэба выбраць з кожнай кніжкі
Мудрасці хаця б паўлыжкі.

***

Ды зь якой скажы нагоды,
Ад якой бяды
У густых лясах заўсёды
Валяцца дубы?

***

Як жыццё закруціць шпарка,
Дум адкрыецца палёт:
Геніяльная даярка
І прафесар-ідыёт.

***

І царыцы бываюць тупіцы.

***

Не да вершаў ужо,
Не да вершаў.
І апошнім ідзе,
Хто быў першым.

***

Бачу новую прыгоду,
Сталі пчолы супраць мёду.

***

У ясных думах сэнс адкрыўся –
Той не памрэ, хто не радзіўся.

***

Скарлацці і Вівальдзі,
Тарціні і Карэллі
Сучасных кампазітараў
Паслухаць не хацелі.

***

Намагаўся быць прыстойным,
Не ўжываць паганых слоў,
А як гляну на “дастойных”,
Пачынаю зноў і зноў.

***

Афіцыйна багоў шанавалі,
А фактычна блудзілі і кралі.

***

Раз зайшоў у інтэрнэт,
А ўжо выхаду і нет.

***

Не разгледзеўшы, быццам на смех,
Я адкінуў жыццёвую радасць,
Аказалась, найбольшы мой грэх –
Непатрэбная Госпаду святасць.

***

Інтэрнэт рыхтуе ўсім
Розныя сустрэчы,
Крые матам, што ёсць сіл,
Моліцца штовечар.

***

Два плюс два бывае пяць,
І не дзіва гэта,
Ў матэматыцы, сказаць,
Шмат яшчэ сакрэтаў.

***

Калі жыць зямным жыццём,
Не бяруць на неба,
А як для нябёс жывём,
То зямля не трэба.

***

Колькі думак зіхаціць
На святых магілах,
А мінулага змяніць
Нават Бог не ў сілах.

***

Справа добрая за вугал
Сёння выйшла пагуляць,
Злыя людзі, быццам вугаль,
Раз не паляць, то чарняць.

***

У час таталітарнае свабоды
Адкрылася хто блізкі быў каму,
Ядналіся маральныя уроды,
Сумленныя былі паасобку.

***

Член саюза, член партыйны,
Ці яшчэ там нейкі член,
Мае выгляд афіцыйны,
А фактычна – проста член.

***

Ад прадзедаў, спакон вякоў,
Не стала меней мудакоў.

*(паволде Купалы)*

***

Трэба дома бываць часцей,
Будзе выраз на твары прасцей.

*(паводле Барадуліна)*

***

Быў час, быў век, была эпоха,
Цяпер жа ўсе разводзяць лоха.

*(паводле Гілевіча)*

***

Каб сонца засланіць,
Вушэй асліных мала,
Патрэбна ў рыла біць,
Каб мова загучала.

*(паводле Крапівы)*

***

Няма таго, што раньш было,
Усё паела Вераніка…

*(паводле Багдановіча)*

***

З легендаў і казак былых пакаленняў
Дагэтуль не маем другіх дасягненняў.

*(паводле Танка)*

***

Не гуляў, не валачыўся,
Не курыў, віна не піў,
А як толькі ажаніўся,
Так налева і паплыў.

***

Мілая мая гіпертанія,
Што ж ты не Наталля, не Марыя.

***

Захапляе дух парой
Ад штармоў наперадзе,
Карабель бяспечны той,
Што стаіць на беразе.

***

Людзі сталі як даўбешкі,
Няма памяці без флэшкі.

***

Як жа гэта недарэчна,
Што заснём усе навечна.

***

Божае натхнёнае дзівацтва –
Ліры, флейты, арфы, клавесін,
Ах, якое тонкае мастацтва!
І заробак тоненькі зусім.

***

Маэстра пісаў геніяльна,
Бо так яму вызначыў Бог,
Ды толькі, сказаць літаральна,
Ніяк пракарміцца не мог.

***

Зноў бяздарнасць разбітная
Сто сяброў вядзе сваіх,
Талент па жыцці збірае
Толькі ворагаў адных.

***

Мае тайны пры мне спачываюць,
Хоць пра іх ужо многія знаюць.

***

Я кішэні пачысціў да дна,
Дзе мастацтва, там грошай няма.

***

Багаты падзеі былыя,
А людзі і сёння гнілыя.

***

Не бывае цудаў у жыцці,
І чараўнікі пайшлі на біржу,
Працай жа сваёй, як не круці,
Зарабіць магчыма толькі грыжу.

***

Злы кідае добраму дакоры,
Хітры водзіць зманлівыя цені,
Хворага шкадуе толькі хворы,
Генія падтрымлівае геній.

***

Сёння ізноў невясёлы,
Ды вінавачу сябе,
Помню разумныя словы:
Здраджваюць толькі свае.

***

З кім сягоння ў ЗАГС ідзеш,
З тым і ночку правядзеш.

***

Самы раз паваяваць
З векам ашалелым,
Талент можна закапаць
Толькі разам з целам.

***

Праз жыццё не удалося
Разглядзець прыроднага,
Верагодна, адбылося,
Шмат неверагоднага.

***

У вялікім натоўпе ніколі
Не бывае ні праўды, ні волі.

***

Разгледзеўшы усе законы праўды
І вымераўшы мудрасці сусвету,
Скарына сёння кніг не друкаваў бы,
Пазнаўшы цуда-сілу інтэрнэту.

